

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 6 (392) Нядзеля, 9 лютага 1958 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Аб спатканьні на найвышэйшай узроўні

Пасьпяховае выпушчэньне Амэрыкай штучнага сатэліты або спадарожніка зямлі 1 лютага сёлета грунтоўна зьмяніла ўзаемадачыненьне сілаў між Задзіночанымі Штатамі й Савецкім Саюзам.

Пасьля апераджэньня Саветамі Амэрыкі ў галіне ракетнае зброі міжкантынэнтальнага засягу і выпушчэньня двух першых савецкіх спадарожнікаў зямлі на Захадзе паўстала пачуцьцё дэпрэсіі, расчараваньня і навет панічнага страху. Гэты стан умела выкарыстала Масква ў сваей прапагандовай акцыі і ў дыпляматычнай ігры з Захадам. Савецкая замежная палітыка чатырох апошніх месяцаў, вялася пад знакам ейных першых зямельных спадарожнікаў або, як прынята было на Захадзе паслугоўвацца расейскім словам, пад знакам «спутнікаў».

Цяпер такое палажэньне раптам зьмянілася. Саветы страцілі манаполь у галіне штучных спадарожнікаў зямлі, а Амэрыка прывярнула ў гэтай галіне раўнавагу з Савецкім Саюзам. Таму трэба ўважаць, што з днём 1-га лютага скончыўся кароткі пэрыяд пасьпяховай савецкай «спутнікавай» замежнай палітыкі.

Як вядома, на працягу апошніх чатырох месяцаў Масква, выкарыстоўваючы сваю «спутнікавую» перавагу, імкнулася да спатканьня з заходнімі дзяржавамі на найвышэйшай узроўні, г. зн. да спатканьня шэфаў вялікадзяржаваў, Захаджа, асабліва Амэрыка, будучы апярэджанай Масквой у галіне навукова-тэхнічнай і ня могучы весьці ігры тымі самымі козырамі, што Саветы, ад такога спатканьня старалася ўхіліцца да часу выраўнаньня сваіх сілаў з Масквой.

Але заходняя публічная апінія, не бяз уплыву савецкае прапаганды, і галоўна ў Вялікабрытаніі, рабіла вялікі націск на свае ўрады, дамагаючыся як найхутчэйшага спатканьня на найвышэйшым узроўні і наіўна веручы, што яно ўсё-ж можа прывесьці да міжнароднага адпружаньня. Таму выглядала, што пад ціскам гэтае апініі заходнія дзяржавы ўсё-ж згодзяцца на гэтае спатканьне. Каб, аднак, не стварыць з гэтага спатканьня адно толькі выгаднай бальшавіком прапагандовай для іх трыбуны, заходнія дзяржавы дамагаліся ўсьцяж, каб спачатку адбылося спатканьне толькі міністраў замежных справаў і шляхам звычайнай дыпляматычнай акцыі быў прыгатаваны парадак дня, і толькі ад удачы гэтых прыгатаваўчых крокаў было ўзалежненае спатканьне на найвышэйшай узроўні.

Аднак часамі выглядала, што заходнія ўрады пад узмоцненым ціскам публічнае апініі ўсё-ж згодзяцца на спатканьне на найвышэйшай узроўні навет без папярэдняга спатканьня міністраў замежных справаў.

Сяньня сытуацыя значна зьмянілася на карысьць спатканьня дзякуючы дасягненьню раўнавагі між Амэрыкай і Саветамі, бо сяньня Амэрыка, а за ёй увесь Захад могуць гаварыць з тэй самай пазыцыі, што і Саветы.

Перад тым, аднак, як рабіць прагнозы аб магчымых выніках спатканьня на найвышэйшай узроўні, неабходна коратка спыніцца на тым, якіх мэтаў спадзяюцца дасягнуць абодвы праціўныя бакі ад такога спатканьня і якія справы жадаюць на іх абгаварваць.

Вось-жа галоўнай мэтай спатканьня мае быць дасягненьне міжнароднага адпружаньня і тым самым адхіленьне загрозы новай сьветавай вайны, якая вялася пры помачы мадэрнае зброі й пагражала-б узаемным вынішчэньнем. Мэта, як бачым, шляхотная і ня можа быць ня прынаднай для народаў вольнага сьвету. Толькі, нажаль, іншы зьмест у сфармуляваньне гэтае мэты ўкладае Захад і зусім іншы Масква.

Захад узапраўды шчыра імкнецца да міжнароднага адпружаньня й адхіленьня загрозы зьнішчальнае вайны. Таму Захад жадае наўперад зьліквідаваць галоўныя прычыны, якія гэтае напружаньне выклікалі, трымаючыся цьвярозай лёгікі, што бязь іхняга папярэдняга зьліквідаваньня нельга зьліквідаваць і самога напружаньня.

Дзьве галоўныя прычыны, бязь зьліквідаваньня якіх нельга зьліквідаваць і міжнароднага напружаньня, высунуў прэзыдэнт Айзэнгаўэр у сваім апошнім адказе на лісты Булганіна.

Аднэй з гэтых прычынаў зьяўляецца падзел Нямеччыны і перашкода Саветаў перад яе задзіночаньнем. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр прыпомніў, што справа нямецкая стаяла на парадку дня жэнэўскай канфэрэнцыі «на найвышэйшай узроўні» ў ліпені 1955 году і што Саветы абяцалі тады зрабіць усё магчымае, каб дасягнуць задзіночаньне Нямеччыны шляхам свабодных выбараў, але потым свайго абяцаньня ня выканалі, а наадварот, яшчэ больш завайстрылі сытуацыю ў сувязі зь Нямеччынай. Дзеля гэтага амэрыканскі прэзыдэнт высунуў дамаганьне, каб новая канфэрэнцыя інтэнсыўна занялася «задзіночаньнем Нямеччыны шляхам вольных выбараў, як было пастаноўлена і як гэтага моцна вымагае сытуацыя».

Другім пытаньнем, бязь ліквідацыі якога ня можа быць зьліквідаванае міжнароднае напружаньне, зьяўляецца справа Сярэдня-Ўсходняй Эўропы. Таму прэзыдэнт Айзэнгаўэр, паклікаючыся на прынятае Саветамі забавязаньне ў Ялце ў 1945 годзе, што ўрады ў гэтых краінах будуць паклічаныя на падставе вольных выбараў, цяпер запрапанаваў, «каб цяпер гэтая справа была абгавораная, бо існуе істотная гэтага патрэба для інтарэсу міру й справядлівасьці».

Як ведаем, Саветы ня думаюць згадзіцца ні на адно, ні на другое. Савецкія кіраўнікі, Хрушчоў і Булганін, у чатырохмесячным пэрыядзе савецкай «спутнікавай» палітыкі неаднакратна заяўлялі, што за зялезнай заслонай, у тым ліку і Ўсходняй Нямеччыне павінен быць захаваны статус кво. Апошнюю такую заяву зрабіў Хрушчоў у сваей прамове ў Менску, сказанай ім у канцы студзеня падчас павароту з трохдзённага спатканьня з Гамулкай у Белавежы. У гэтай прамове, адказваючы на ўспомненыя вышэй прапановы прэз. Айзэнгаўэра што да парадку дня канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні, Хрушчоў станоўча адкінуў парушаньне на гэтай канфэрэнцыі справы задзіночаньня Нямеччыны й справы краінаў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы, цьвердзячы, што гэта было-б умешваньнем у нутраныя справы дзяржаваў.

Мала гэтага. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр быў запрапанаваў, каб канфэрэнцыя занялася так-жа пытаньнем забароны выкарыстаньня касьмічнага прастору для ваенных мэтаў. Хрушчоў у сваёй менскай прамове адкінуў катэгарычна й гэтую прапанову прэз. Айзэнгаўэра. Ён сказаў, што Саветы маглі-б згадзіцца на абгаварэньня справы міжкантынэнтальных балістычных ракетаў толькі ў рамах цэласьці пытаньня раззбраеньняў, калі-б заходнія дзяржавы згадзіліся на забарону атамнага й вадароднага аружжа, спыніць дасьветчаньні з гэтым аружжам і зьліквідаваць ваенныя базы, якімі Амэрыка акружыла Савецкі Саюз.

Якія-ж пытаньні хацелі-б разглядаць Саветы на канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні? Вось-жа галоўным іхным пытаньнем мелася-б быць стварэньне ў Эўропе сыстэмы ўзаемнай бясьпечнасьці між Захадам і Ўсходам. Гэтая сыстэма ў вапошняй савецкай інтэрпрэтацыі, як ведама, сфармуляваная ў пляне польскага міністра замежных справаў Рапацкага. Плян прадугледжвае стварэньне ў Эўропе «бязатамнага» пояса бясьпечнасьці, на тэрыторыі якога абодвы праціўныя бакі ня мелі-б сваіх базаў атамнага й вадароднага аружжа. Гэты пояс паводля прапановы Рапацкага меў-бы абыймаць абедзьве часьці Нямеччыны, Польшчу й Чэхаславаччыну, але пазьней Саветы запрапанавалі ў яго ўключыць Скандынаўскія краіны на поўначы й Італію на паўдні, каб пасьля нарадаў Хрушчова з Гамулкам у Белавежы дадаць да гэтага «бязатамнага» пояса яшчэ й краіны Сярэдняга Ўсходу.

Ня трэба забывацца, што ўсякая магчымая савецкая прапанова аб стварэньні ў Эўропе сыстэмы ўзаемнай бясьпечнасьці, ці то ў форме пляну Рапацкага ці розных іншых праектаў нэўтральнага пояса, уключае ў сябе, як складовую частку, яшчэ й іншае вымаганьне Савецкага Саюзу: зьліквідаваньне амэрыканскіх ваенных базаў у Эўропе.

Як бачым, супярэчнасьці між Саветамі й заходнімі дзяржавамі такія вялікія, што ўзаемна сябе выключаюць. Таму няма найменшых падставаў спадзявацца, што канфэрэнцыя на найвышэйшай узроўні ўзапраўды можа прывесьці да міжнароднага адпружаньня. Дык паўстае тады пытаньне, што маюць у запраўднасьці на мэце Саветы, калі на гвалт дамагаюцца такой канфэрэнцыі?

І тут прыходзім да істоты справы. Саветы, як і ўсе дасюлешнія канфэрэнцыі, будуць намагацца выкарыстаць для сваей замежнай прапаганды: паказаць у вачох народаў сьвету свае быццам мірныя намеры й зваліць віну на Захад за эвэнтуальную няўдачу канфэрэнцыі. Другой мэтай, цесна зьвязанай зь першай, было-б тое, каб усё-ж нешта ад Захаду вытаргаваць у сваю карысьць і на шкоду апошняга. Апрача гэтага, не апошнюю ролю іграе ў савецкіх плянах прытупіць апінію Захаду на загрозу савецкай небясьпекі ў выпадку, калі-б было дасягнутае нейкае слоўнае паразуменьне якое, як ведама, ніколі ня было для Саветаў абавязваючым.

І ўзапраўды, ня выключаная небясьпека, што шэфы заходніх дзяржаваў, каб не вяртацца з канфэрэнцыі з пустымі рукамі і не настройваць супраць сябе сваіх грамадзянстваў, будуць старацца, як было гэта ў Жэнэве й падчас цэлага раду іншых канфэрэнцыяў, ня будуць грэбаваць і слоўнымі савецкімі забавязаньнямі. У падобным выпадку, а ён вельмі праўдападобны, карысьць з канфэрэнцыі была-б аднабокай, г. зн. на баку Саветаў.

Праўда, існуе магчымасьць, каб плянаваная канфэрэнцыя прынесла бясспрэчную карысьць для Захаду й шкоду для бальшавікоў. Гэта ў тым выпадку, калі заходнія ўдзельнікі канфэрэнцыі будуць мець сваю собскую пазытыўную праграму, калі з пазыцыі абароны змогуць перайсьці да наступу. Такі абарот справы даў-бы ініцыятыву ў рукі Захаду, а ягоны савецкі партнэр быў-бы змушаны перайсьці на абаронныя пазыцыі. Дасягненьне Амэрыкай раўнавагі з Саветамі ў форме выпушчэньня штучнага спадарожніка зямлі лягічна падказвае, што іменна такую пазыцыю павінен цяпер заняць Захад.

**Язэп Каранеўскі**

# Супраць выкрыўленьня запраўднасьці

У гутарках з Расейцамі пра падзеі ў Савецкім Саюзе апошняга часу часта можна пачуць падобную рэпліку: «супраць партыйнае дыктатуры, наагул супраць рэакцыйнага бальшавізму фактычна выступіла толькі інтэлігенцыя цэнтру, г. зн. Расейцы, расейскі народ, у той час, як ,нацыяналы', асабліва Беларусы й Украінцы, паказалі сябе ў гэтым ,антысавецкім буньце' народу пасыўнымі, калі ня прыхільнікамі рэжыму». Гэта вельмі ўпрошчаны падыход да пытаньня, які, ма-быць, зьвязаны зь іншым недарэчным іхнім цьверджаньнем пра тое, што «народы Расеі катэгарычна выступяць супраць усякіх вонкавых спробаў разьдзяліць агульную для іх усіх дзяржаву, супраць усякіх пасяганьняў на арганічнае адзінства Расеі, гэтага свабоднага саюзу ўсіх яе народаў».

Пры добрым жаданьні прааналізаваць усебакова ўсе гэтыя падзеі й зрабіць адпаведны высноў, можна было-б пабачыць, што ў нацыянальных рэспубліках было таксама шмат адкрытых антыпартыйных і антысавецкіх выступленьняў, якія мералі савецкую сыстэму той-жа самай меркай, як гэта рабілі, прыкладам, літаратары Масквы й Ленінграду. Аднак, найлепш можна было-б зразумець гэтыя выступленьні, узяўшы на ўвагу іншага характару антысавецкі супраціў нерасейскіх народаў гэтага часу — супраціў, зьвязаны з нацыянальным пытаньнем.

Гаворыць народная прыказка, што «галоднай куме — хлеб на ўме». Для нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу гэтым «хлебам» ёсьць якраз стоптанае нацыянальнае пытаньне, якое адхіляла на другі плян антыбальшавіцкую чыста ідэялягічную барацьбу. Змаганьне за нацыянальныя правы імі ставілася вышэй змаганьня з «марксістоўскім» налётам, які засуджаны на зьнікненьне першым.

Ніхто, здаецца, ня будзе аспрэчваць праўды, што за часы савецкага панаваньня нерасейскія падсавецкія народы ці «нацыяналы», як іх любяць называць Расейцы, апынуліся на статусе «чорных нявольнікаў». І гэта ня толькі ў сэньсе эканамічным. Яны, асабліва Беларусы і Ўкраінцы (не закранаем пытаньня зьнішчаных цалкам народаў), былі абрабаваныя палітычна й духова, пазбаўленыя ўсякай годнасьці нацыі шляхам рабунку іхніх нацыянальных традыцыяў, гісторыі й культуры, шляхам зьнішчэньня нацыянальна-сьведамых кадраў і нацыянальна-культурных здабыткаў. Што-ж яны атрымалі ў замен? Так званую «савецкую культуру» й «савецкі» эрзац нацыі, асснованыя фактычна на культуры «вялікага расейскага» народу й на ягоным нацыянальным патрыятызьме. Гэта прывяло, як прыкладам у Савецкай Беларусі, да вынішчэньня матарыяльных і людзкіх нацыянальных вартасьцяў, да замены іх расейскімі, і што найтрагічней — выцясьненьня роднае мовы народу ня толькі з культурна-грамадзкіх установаў і жыцьця, із школаў і клюбу, але й штодзённага ўжытку. Як зьдзекліва сьмяецца хоць-бы гэты прыклад: адзіны ў рэспубліцы Беларускі дзяржаўны унівэрсытэт і ў ім афіцыяльная мова выкладаньня ... расейская! А якая мізэрная колькасьць сярэдніх школаў зь беларускай мовай навучаньня супраць такіх школаў з расейскай... Будуем сацыялізм!...

Тут і напрашваецца пытаньне: як можна той частцы нацыянальнай інтэлігенцыі, якой нейкім чынам пашчасьлівілася яшчэ захавацца, хапацца за вырашэньне праблемаў камунізму, брацца за аздароўліваньне сацыялізму, мінаючы набалелае нацыянальнае пытаньне? Яна ня можа гэтага рабіць яшчэ й з тых прычынаў, што яна ўсьцяж зьяўляецца яшчэ мышай пад мятлой свайго «старэйшага брата», цікуючы за кажным рухам гэтае мятлы. Вось чаму мы чуем у большасьці выпадкаў толькі ейны голас скаргаў пра тое, што трэба пакончыць з нацыянальнай дыскрымінацыяй, з забойствам народнае душы, з вынішчэньнем народу як нацыі. І гэты голас не адзінокі й не з зацішша. Ён набывае ўсенароднае рытмікі, станоўчага патрабаваньня.

Ці гэта ня супраціў так званай савецкай ідэялягічнай і палітычна-дзяржаўнай сыстэме?

**П. Залужны**

# За мінулы тыдзень

(пс) Урэшце ў космас выляцеў і амэрыканскі першы спадарожнік зямлі. Праўда, шмат меншы за савецкі, аднак атрымоўваныя зь яго навуковыя інфармацыі ня менш вартасныя, чымся із савецкага. Інфармацыі гэтыя тымбольш вартасныя, што, у вадрозьненьне ад бальшавікоў, Амэрыканцы робяць іх даступнымі ўсяму сьвету.

Варта прыгадаць пікантны факт, што калі ў сьвеце рабіліся дапушчэньні, што да сканструаваньня савецкіх «спутнікаў» спрычыніліся нямецкія вучоныя, Масква вельмі-ж жыва запярэчыла, затое як толькі зьявіўся амэрыканскі спадарожнік, савецкая прапаганда з адмысловым смачком паўтарае, што гэта дасягненьне — заслуга нямецкіх вучоных. Тут бальшавікі засталіся верныя сваім традыцыям: усе вялікія адкрыцьці ад вашапрудкі да самалётаў далі сьвету Расейцы, а тут раптам «спутніка» выдумалі Немцы!... Хай лепш яны выдумоўваюць Амэрыканцам!...

☆

Задзіночаньне Сырыі і Эгіпту, якое сталася фактам у мінулым тыдні і стварэньне аднэй дзяржавы пад сымбалічным назовам «Задзіночанай Арабскай Рэспублікі» — першы этап рэалізацыі амбітных мрояў Насэра аб «арабскай імпэрыі». Гэты мар'яж мае стацца касьцяком, навокал якога будзе нарастаць арабскае мяса. Праўда, у гэтым касьцяку замест шпіку — Ізраэль, што ня можна лічыць сымптомам здароўя, ды й сам касьцяк падточаны камунізмам. Іншая рэч, што Насэр можа радыкальнымі спосабамі вылячыць сваю другую палавіну з камуністычнай пошасьці, бо Насэр кахае камуністых тады, калі мае ад іх грошы ды кахае іх у Маскве, затое ў сябе дома, калі пачынаюць заводзіцца — душыць іх як прусакоў.

Усё-ж такі ідэя «арабскай імпэрыі» яшчэ далёкая да зьдзейсьненьня, бо іншыя арабскія дзяржавы неахвотна пойдуць пад Насэраву дыктатуру; дагэтага іншыя дзяржавы багатыя, а Насэр голы, бо й Сырыя прывязе яму невялікі пасаг. Зь Нілю й нацыяналізаванага каналу ня шмат разжывуцца. Такім чынам, гэтае непрактычнае сужэнства пад маскоўскім багаславенствам, будзе й далей выцягваць рукі да Масквы па дапамогу, а Масква, калі захоча далей муціць ваду ў Суэскім канале ды гуляць з вагнём каля нафты — мусіць плаціць, бо нехта багацейшы можа іх узяць на ўтрыманьне разам із сіратой Емэнам, які просіць Эгіпт і Сырыю, каб яго адаптавалі.

Пакуль што мар'яж Маскве выгадны й яна ня толькі багаслявіць яго, але й падкормлівае. А хіба ўжо ня трэба прыгадваць і паўтараць што тое, што выгадна Маскве — скула вольнаму сьвету.

☆

Тымчасам вольны сьвет зачытваецца лістамі Булганіна. У вапошнім часе Булганін стаўся найбольш плодным, модным і папытным аўтарам, хаця ня мае найменшых літарацкіх здольнасьцяў. Як усе графаманы, Булганін плодны й засыпае сваіх чытачоў макулятурай, а гэтыя апошнія-бедныя чытаюць і пацеюць, пацеюць і чытаюць ня трацячы аптымізму, што, пры цярплівасьці, урэшце ў гэтых Гімаляях булганінскай мякіны знайдуць хоць маленькае зярнё.

Апошні ліст Булганіна да Айзэнгаўэра моцна рашчараваў аптымістычных чытачоў. Булганін бясцырымонна адкінуў усе контрапрапановы Айзэнгаўэра. Такім чынам, так спадзеваная й жаданая размова з Булганінам і Хрушчовам «на вярхох» адцягваецца. Усё-ж, праўдападобна, да гэтай размовы дойдзе, а ейныя вынікі ня могуць быць іншыя, як новая капітуляцыя Захаду, або нічога.

# Новыя экспэрымэнты ў сельскай гаспадарцы СССР

Апошнімі часамі ў СССР было апублікавана некалькі вельмі цікавых і важных дакумантаў у справах сельскае гаспадаркі. 21 студзеня сёлета зьявіўся зварот ЦК КПСС і Савету міністраў СССР да працаўнікоў сельскае гаспадаркі. 22 студзеня Хрушчоў выступіў у Менску на нарадзе перадавікоў сельскае гаспадаркі, 27 студзеня было зьмешчана паведамленьне Цэнтральнай Статыстычнай Управы (ЦСУ) аб выніках выкананьня дзяржаўнага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі ў 1957 г. Апрача гэтага часапіс «Октябрь» (№ 11 і 12 за 1957 г.) зьмясьціў дыскусійныя матар'ялы аб узаемадачыненьнях між МТС і калгасамі.

Падамо некалькі заўвагаў аб выкананьні пляну ў сельскай гаспадарцы ў 1917 г.

У сувязі з засухай ураджай 1957 году быў значна ніжэйшы, чымся ў 1955 г. Паводля афіцыяльных заяваў, ураджай збожжа быў роўны ўраджаю 1955 г., гэта значыць — 6 мільярдаў пудоў. Аб памерах засухі гаворыцца ў звароце да працаўнікоў сельскае гаспадаркі наступнае: «Для сельскае гаспадаркі нашае краіны 1957 год быў цяжкі. На ладнай частцы тэрыторыі, асабліва ў раёнах Паволжа, паўдзеннага Ўралу й Казахстану, склаліся цяжкія ўмовы ў сувязі з працяжнай засухай. У раёнах ніжняга й сярэдняга Паволжа засуха была мацнейшай, чымся ў памятным 1921 годзе».

У сувязі з засухай трэба лічыць, што ў мінулым годзе дзяржава атрымала ў найлепшым выпадку на адзін мільярд збожжа менш, чымся ў 1956 г.

У паведамленьні-ж ЦСУ гаворыцца аб дасягненьнях на шляху да дагнаньня й перагнаньня ЗША ў прадукцыі малака й мяса: «Цяпер вытворчасьць малака ў нашай краіне дасягнула прыкладна 95 працэнтаў вытворчасьці малака ў ЗША. Аднак, каб дагнаць ЗША ў вытворчасьці малака на душу жыхарства ў 1958 г., неабходна збольшыць вытворчасьць малака ня менш, чымся на 40 працэнтаў у параўнаньні з 1956 г., інакш кажучы — у 1958 г. трэба будзе выпрадукаваць 68 мільёнаў тон. Бяручы на ўвагу, што колькасьць кароў толькі ў закранутай засухай частцы РСФСР складае 25 працэнтаў, магчымасьць збольшаньня вытворчасьці малака на 40 працэнтаў у галодны год выклікае паважныя сумлевы.

Як-жа выглядае палажэньне сельскай гаспадаркі ў Беларусі?

У часе пабыту Хрушчова ў Менску тут былі ўзнагароджаныя перадавікі сельскае гаспадаркі. 32 чалавекам быў прысвоены тытул Гэрояў працы, а 4.970 — атрымалі ордэны й мэдалі. Праўда, ордэнамі былі ўзнагароджаныя сакратары ЦК КП Беларусі, сакратары й старшыні вобласьцяў ды ладная колькасьць савецкіх і партыйных кіраўнікоў. Такія шчодрыя ўзнагароды, часткава ўручаныя асабіста Хрушчовам, здавалася-б павінны характарызаваць агромныя дасягненьні ў сельскай гаспадарцы Беларусі.

У запраўднасьці, паводля афіцыяльных дадзеных, сярэдні ўраджай збожжа быў толькі 7,2 цэнтнары з гэктара, а бульбы было выбрана толькі каля 80 цэнтнараў з гэктару. Да гэтага трэба дадаць, што ў некаторых калгасах ураджай збожжа быў меншы за 6 цэнтнараў з гэктару, а ў цэлым шэрагу раёнаў Магілёўскай і Віцебскай вобласьцяў — ніжэй за 5 цэнтнараў збожжа й ніжэй за 50 цэнтнараў бульбы з гэктару!

Беларусь — рэспубліка фарсаванага пературарання калгасаў у саўгасы. Толькі за два апошнія гады было зьліквідавана 489 калгасаў (усіх 4,4 тыс.) і 30 МТС ды зарганізавана 70 новых саўгасаў і ўзбуйнена 78 існуючых.

Якія-ж вынікі гаспадараваньня саўгасаў? Вельмі сумныя. Апрача нізкай ураджайнасьці толькі за мінулы год страты ад паданьня (з голаду) жывёлы дасягнулі 15 мільёнаў рублёў. Лічачы кошт аднае галавы жывёлы ў 1000 рублёў, пры пераводзе на буйную рагатую жывёлу гэта дае больш за 15 тысяч галоў. Сабекошт прадуктаў у саўгасах перавысіў на 71 мільён рублёў плянавы сабекошт А ў Беларусі-ж усяго толькі 193 саўгасы! На нарадзе перадавікоў Хрушчоў нездарма адзначыў, што савецкі ўрад узнагароджваючы ордэнамі, дае іх «крыху авансам».

Аднак із цэлае сэрыі пытаньняў што да сельскае гаспадаркі цікавымі зьяўляюцца думкі Хрушчова, выказаныя ім у Менску аб ролі МТС, а таксама ягоныя прапановы што да рэканструкцыі МТС. Напачатку Хрушчоў адзначыў, што «МТС адыгралі агромную палітычную ролю, яны спрычыніліся да пераходу аднаасобных сялянскіх гаспадарак у калгасы. МТС былі важнай крыніцай атрымоўваньня збожжа й іншых прадуктаў, а таксама тэхнічнае скравіны для прамысловасьці. Яны садзейнічалі ўмацаваньню фінансаў нашае дзяржавы». Цяпер-жа Хрушчоў знаходзіць, што кошт збожжа і шэрагу іншых прадуктаў, атрымоўваных шляхам натураплаты, значна вышэйшы, чымся кошт прадуктаў атрымоўваных ад калгасаў і саўгасаў (збожжа МТС — 85 руб. цэнтнар, калгасаў — 53 руб., саўгасаў — 33 руб.; мяса ад МТС — 848, саўгасаў — 808, калгасаў — 364, і г. д.). Такая розьніца ў цэнах зьяўляецца, на думку Хрушчова, вынікам агромных накладных расходаў у МТС.

Чамусьці толькі цяпер Хрушчоў пераканаўся, што «існуюць два гаспадары на адной зямлі — калгасы й МТС. А там, дзе два гаспадары, ня можа быць добрага парадку». Гэтыя пытаньні ЦК КПСС і Савет міністраў СССР «дакладна вывучаюць», сказаў Хрушчоў. Тымчасам цэлага чверць стагодзьдзя камуністычнае кіраўніцтва гэтага ня бачыла!

Хрушчоў лічыць, што «частку машынаў, відавочна, трэба прадаць калгасам». Калгасы павінны будуць аплаціць дзяржаве кошты машынаў ды ўзяць на сябе расходы ўтрыманьня тэхнічнага апарату. Прапануецца МТС перайменаваць у рамонтныя станцыі ды ўскласьці на іх цэнтралізаваны рамонт, а таксама прадаваньне запасных частак машынаў. Хрушчоў лічыць мэтазгодным пры такіх станцыях мець пракатныя пункты для ўтрымоўваньня тых машын, якія нявыгадна купляць калгасам. Ён знаходзіць таксама патрэбным арганізаваць пры станцыях аўтамабільныя ка-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Літаратура «голай ідэі»

**Зусім вядома, што, дзякуючы сацыялістычнаму рэалізму, паэзія страціла ўсю сваю прывабнасьць у краіне сацыялізму, што паэзія, як і проза, як і мастацкая літаратура наагул, выконвае ролю «служкі партыі», як гэта выказаўся нядаўна на балонках «Літературнай Газеты» літоўскі паэта Тыльвітыс. Аб паэзіі, як аб «служцы партыі», мы ня зьбіраемся шмат гаварыць — яна безасабовая і ня мае нічога агульнага з паэзіяй, як творчасьцяй. Гэта зусім ясна і вядома кажнаму, хто цікавіцца паэзіяй. Але, нажаль, гэта часта ігнаруюць тыя паэты, што гоняцца за сталінскай, ці, як цяпер — за ленінскай прэміяй.**

**Нельга-ж назваць паэзіяй рыфмаваную дырэктыву камуністычнай партыі ў якой-небудзь галіне народнай гаспадаркі, культуры, ці ў якой іншай галіне. Гэтак можна зрыфмаваць і цэлы «Капітал» Карла Маркса. Нажаль, гэткіх пэрлаў у беларускай савецкай паэзіі, як і ў савецкай паэзіі наагул, можна знайсьці колькі хочаце, ня гледзячы на тое, што час гэтак званай «чырвонай халтуры» як быццам мінуў, і ад паэтаў патрабуюць ужо «высокамастацкіх твораў». Відаць, гэная «чырвоная халтура», няўнікнёны спадарожнік камуністычнай рэглямэнтацыі ў мастацкай літаратуры. Такую паэзію добра схарактэрызаваў калісьці на прыкладзе Андрэя Александровіча адзін малады беларускі паэта: «У Александровіча Андрэя — адна голая ідэя».**

**«Голая ідэя» запанавала сёньня над усёй беларускай літаратурай, ў тым ліку і над паэзіяй — гэтым атыподам «голай ідэі». Нездарма-ж некаторыя беларускія літаратураведы крытыкавалі ў свой час Пімена Панчанку за «празьмерную мэтафарычнасьць», за «перагружанасьць вобразнасьцяй». Мэтафарычнасьці, вобразнасьці баіцца сацыялістычны рэалізм, як чорт ладану, уважаючы, што гэткая аздоба не да твару пралетарскай, савецкай паэзіі, што ў вобразнасьць можа апранацца толькі «буржуазная паэзія».**

**Так і ходзіць нашая паэзія голай у імя «голай ідэі», ня гледзячы на тое, што апошнімі часамі апранаюць яе ў больш цёплую вопратку айчыны патрыятызму, дружбы і міру. Але ёй не цяплей ад гэтага — «голая ідэя» і тут яе ня грэе. І нічога вартаснага на гэтыя тэмы, як і на папярэднія — калектывізацыю, індустрыялізацыю і г. д. беларуская паэзія не стварыла, калі ня лічыць паасобных удачаў Максіма Танка і Аркадзя Куляшова. Але і тут тэма міру і айчыны знайшла сваё адтварэньне ня з эстэтычных пазыцыяў сацыялістычнага рэалізму ці з пазыцыяў «голай ідэі»; тут мы маем дачыненьне з паэзіяй не «празаічнай», не з паэзіяй-зямлёй, а з паэзіяй-акіянам, з паэзіяй, якую нарадзіла бура вайны-акіяну. Гэта ўжо іншы аспэкт нашай тэмы і да яго мы яшчэ вернемся. У васноўным-жа, «сацыяльнага заказу» беларуская савецкая паэзія ня выканала, хоць і «апраналася» у рознага гатунку савецкую «вобразнасьць». Ня выканала, разумеецца, у творчым пляне, ня выканала ўнутрана, хоць выканала вонкава, тэматычна. Памятаецца, яшчэ перад вайной, у беларускай савецкай паэзіі былі моцныя г. зв. матывы народнасьці, тады гульня ў «народнасьць» мела на мэце таксама апрануць паэзію нечым больш прывабным, вобразным. Але зноў такі і тут дзеіў той-жа сацыялістычны рэалізм: у мастацкім пляне гэта была падробка пад фальклёр, пад эпас, пад народ; у ідэялягічным пляне — паказ «заможнага» жыцьця народу. У выніку беларуская савецкая паэзія «узбагацілася» некалькімі псэўданароднымі творамі, як творамі таго-ж Куляшова і Пятруся Броўкі — творамі, якія атрымалі назоў лякіраванай літаратуры, ці — панашаму — літаратуры «голай ідэі».**

С...

## *Памажыце зрабіць карысную справу!*

### ДА СПРАВЫ ВЫДАНЬНЯ ТВОРАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Выдавецтва «Бацькаўшчына», апрача тыднёвіка пад тым-жа назовам і месячнага ілюстраванага часапісу для дзяцей «Каласкі», пачынаючы ад 1952 году выдае й кнігі лепшых твораў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. За гэты час выдана 13 кніжак твораў беларускае літаратуры, а сярод іх найвялікшых нашых паэтаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.**

**У мінулым годзе ў сувязі з 40-годзьдзем сьмерці Максіма Багдановіча мы пачалі на бачынах «Бацькаўшчыны» перадрукоўваць паэтычныя творы гэтага паэты, каб іх выдаць пазьней асобнай кніжкай.**

**Варта адцеміць, што творчасьць Багдановіча найменш ведамая й найменш даступная беларускаму й заходняму чытачу, бо на Захадзе ягоныя творы зусім ня перадрукоўваліся. А між тым, роля й значаньне Багдановіча ў нашай літаратуры ня меншае за ролю й значаньне Купалы й Коласа. У той час, калі Купала й Колас галоўным чынам парушалі ідэйныя праблемы нашага нацыянальнага адраджэньня, Багдановіч, як нязвычайна ўталентаваны майстра беларускага паэтычнага слова й паэта высокай літаратурнай культуры, стварыў артыстычныя асновы нашае адраджэнскае літаратуры й падняў яе на эўрапэйскую вышыню. Такім чынам Багдановіч, як адзін із вялікай тройкі беларускай адраджэнскай літаратуры, удала дапаўняў двух апошніх — Купалу й Коласа.**

**Нажаль, цяпер матар'яльнае палажэньне «Бацькаўшчыны» на столькі пагоршылася ў сувязі з ростам друкарскіх і іншых коштаў, што Выдавецтва дасюлешнім спосабам ня зможа выдаць гэтае цэннае кнігі й ейны набор, які застаецца пасьля надрукаваньня ў «Бацькаўшчыне» твораў Багдановіча, прыдзецца раськінуць. Гэта было-б недаравальнай шкодай, бо гатовы набор — гэта ўжо палавіна коштаў усяго выданьня.**

**Каб усё-ж такі ажыцьцявіць гэтае патрэбнае й цэннае выданьне, Выдавецтва ня мае іншага выхаду, як зьвярнуцца да шырокіх колаў нашага эміграцыйнага грамадзтва з гарачым заклікам і шчырай просьбай памагчы нам у гэтай справе. Мы ня просім ані беззваротных ахвяраў, ані ніякіх формаў дапамогі, а просім толькі зусім простай, натуральнай і бясстратнай рэчы: каб ужо цяпер кажны той, для каго беларуская нацыянальная справа ня ёсьць абыякавай, купіў наперад прынамся адзін эгзэмпляр заплянаванага выданьня.**

**Кніга мае быць прыгожа афармленая, у каляровай вокладцы, на добрай паперы й з партрэтам аўтара. Яна выдаецца пад рэдактарствам ведамых беларускіх літаратураведаў праф. Антона Адамовіча й др. Ст. Станкевіча; яны-ж прыгатавалі і ўводныя артыкулы для кнігі аб жыцьці й творчасьці Максіма Багдановіча. Кніга будзе абыймаць каля 200 бачынаў друку.**

**Кошты выданьня, апрача друкарскага набору, будуць выносіць каля 1 000 амэр. даляраў. Цана аднаго эгзэмпляра будзе выносіць 3 амэр. даляры, а ў іншых краінах іхнюю раўнавартасьць. Для краінаў зь ніжэйшым узроўнем жыцьця цана будзе зьніжаная ў тэй самай працэнтнай прапорцыі, як і для іншых кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчына». Дык каб здабыць патрэбныя 1 000 даляраў на выданьне гэтае кнігі, дастаткова калі будзе закуплена наперад прыблізна 350 яе эгзэмпляраў.**

**Кнігу плянуецца выпусьціць у канцы чэрвеня 1958 году. Але да друкаваньня кнігі трэба прыступіць найпазьней у пачатку травеня. Таму тэрмін закупу кнігі згары ўстанаўліваецца да 15 красавіка.**

**Мы зьвяртаемся з гарачай просьбай да ўсіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і паасобных грамадзян безадкладна прыступіць да збору грошай на набыцьцё кнігі й перасылаць іх на адрыс Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне, або на адрыс нашых Прадстаўніцтваў у розных краінах.**

**Пры гэтым Выдавецтва «Бацькаўшчына» гарантуе, што ў выпадку, калі-б аказалася недастатковая колькасьць пакупнікоў кнігі й яна дзеля гэтага ня выйшла, дык заплачаныя за яе грошы будуць зьвернутыя назад собсьнікам. Аднак, нам ня хочацца верыць, каб нашая эміграцыйная грамадзкасьць да гэтага дапусьціла.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

# Творы Максіма Багдановіча 19)

## Да нявыданага зборніка „Пальін-трава„ (вершы пра Аню)

**(1914 — 1915)**

Друже любий мій,
Що читаєш се,
Ти хоч зрозумій
Віль, що серце ссе.

**М. Вороний**

Одну сльозу з очей карих
І — пан над панами!

**Т. Шевченко**

**1914**

**ДВАЙНЯТКІ**

Нясьмела я цяпер стаўлю
Пад апавяданьнямі, вершамі і стацьцямі
Свой подпіс — Максім Багдановіч.
Хачу — і саромлюся і баюся,
І не магу паставіць Ваша імя.
А мне было-б радасна да болю
Бачыць яго поруч із сваім.

Яшчэ дзіцёнкам я чуў,
Што ёсьць на небе двайняткі-зоры,
Каторыя так блізкія між сабой
І так суцэльна зьліваюць сваё сьвятло,
Што нам здаюцца адною зоркаю.

Доля іх — гэта-ж наша доля.
Вы, і самі тое ня прыкмячаючы,
Так многа далі мне,
Так напоўнілі сабой маё жыцьцё,
Што ці-ж магу я адказаць,
Заглянуўшы ў сваю душу:
Што там Ваша і што маё?
Вось чаму я пачуваю сябе вінаватым,
Калі стаўлю пад рознымі творамі
Толькі свой подпіс — М. Багдановіч.

Але няхай-жа ведаюць людзі,
Чытаючы іх,
Што гэта ім зоркі-двайняткі
Сьвяцілі аднэй зарой.

* * *

Я — няпрыкметны, шэры чалавек.
Але Вамі, толькі Вамі паўна мая душа.
І ліюцца зь яе вершы аб Вас,
Як ліецца ўвясну праз кару чысты сок
Зь перапоўненага ім шэрага клёну.

* * *

Ёсьць гэткая японскага забаўка:
Кідаюць дробныя аськёпкі дрэва
Ў ваду — і робіцца яны кветамі.
Баюся я, што Ваша спачуваньне
Прымушу тое-ж зь вершамі зрабіць.

* * *

Тут пахаваны мае пачуваньні, — калісьці жывыя.
Можа, палюбіце Вы могілкі іх навядаць.

* * *

Сьпеў залунаў — і сама адгукнулася чула на ліры
Звонам ціхуткім струна . . .
Ці адазвяцёся Вы?

**1915**

* * *

Вы так часта пазіралі ў люстра
І ніколі — да мяне у вочы,
Дзе вы таксама адбіваецеся
У чорных бліскучых зрэнках —
Гэтых дробненькіх, круглых люстэрках.
Але зьгіне зь люстра Ваш вобраз
І сьледу ня кіне;
А ў маёй душы
Яму ўжо ня зьгінуць.

* * *

Халодная, ясная ноч . . .
Звонка хрумчыць сьняжком,
Ідучы мне насустрэч, дзяўчына.
«Як Вас завуць?
Пытаюся я.
Сягоньня-ж усе варожаць.
І яна няголасна кажа:
«Аня».

* * *

Толькі чаму-ж гэта ў ночы глыбокія,
Даўшы спачынак стамлёным вачам,
Я шапачу цераз сны адзінокія:
«Аня . . . мая . . . нікаму не аддам».

* * *

Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна
Рабіць вобыск у маім сэрцы.
Яшчэ ўчора яна мне казала:
«Прызнайцеся, што Вы пакахалі Аню!»

**АД РЭДАКЦЫІ: «Літаратура і Мастацтва ў нумары 3 з 8 студзеня сёлета зьмясьціла ў рубрыцы «Творчая трыбуна» вельмі цікавы й вымоўны артыкул рэдактара сцэнарнага аддзелу студыі «Беларусьфільм» В. Смаля «Нацыянальная асаблівасьць кінофільму». Гэты артыкул ніжэй передрукоўваем з кароткімі скарачэньнямі.**

# Пародыя беларускага нацыянальнага фільму

☆

За апошнія гады на экранах краіны ўсё часьцей паяўляюцца кінофільмы, створаныя калектывам Беларускай кінастудыі. Аднак, нажаль, часта яны ня прыносяць гледачом запраўднай радасьці, якая заўсёды бывае пры сустрэчы з самабытнымі, нацыянальнымі творамі мастацтва. І гэта ня выпадкова.

Калі-б на беларускіх фільмах не стаяла марка «Беларусьфільм», дык наагул цяжка было-б сказаць, якой студыяй яны выпушчаны.

Справа, зразумела, не ў вадсутнасьці нацыянальнага арнамэнту, этнаграфічна-танцавальнага калярыту, як можа здацца на першы пагляд. Майстры беларускага кіно не скарыстоўваюць лепшых гістарычных традыцыяў свайго народу, не раскрываюць новых сацыяльных асаблівасьцяў у вобразах людзей, у іх нацыянальных характарах.

Беларускія фільмы павінны быць разнастайнымі па тэматыцы й жанрах. Аднак іх павінна аб'ядноўваць адна рыса — яны павінны быць створаны на арыгінальным матарыяле, у іх павінны раскрывацца свае тэмы, тыповыя вобразы народу. Менавіта гэта — адна з важнейшых умоў плённага разьвіцьця беларускай кінаматаграфіі.

Каб высьвятліць прычыны паяўленьня на экранах безаблічных беларускіх фільмаў, што ня маюць ярка выражанай беларускай формы, размову трэба пачаць зь іх першаасновы — кіносцэнарыяў.

Ужо на працягу раду год кінастудыя «Беларусьфільм» ня мае выразнага тэматычнага пляну, які быў-бы абмеркаваны кінаматаграфістымі сумесна зь беларускімі пісьменьнікамі і работнікамі сумежных мастацтваў. У такім пэрспэктыўным пляне, побач з арыгінальнымі сцэнарыямі, прысьвечанымі важнейшым праблемам нашай сучаснасьці, павінна знайсьці месца і экранізацыя лепшых твораў беларускай літаратуры. Але такога пляну няма. Таму работа студыі трымаецца на спадзяваньнях, што «раптам» які-небудзь із сталічных аўтараў пажадае даць беларускім кінаматаграфістым для пастаноўкі свой твор. Але вось падыходзяць тэрміны запуску чарговага фільму, а добрых сцэнарыяў няма. Тады ў ход пускаецца той, які трапіў «пад руку».

Так быў прыняты й здадзены ў вытворчасьць няўдалы сцэнарый Е. Памешчыкава «Пасеялі дзяўчаты лён». Як і трэба было чакаць, па гэтаму сцэнарыю атрымаўся фільм, які справядліва раскрытыкаваны на старонках нашага друку.

Сапраўды, якія ў кінакарціне маглі быць нацыянальныя рысы, калі аўтар «вывучаў» жыцьцё беларускай калгаснай вёскі, ня выяжджаючы за межы Масквы?

Аналягічнымі шляхамі трапіў у тэматычны плян кінастудыі і сцэнарый па аповесьці В. Караленкі «Лес шуміць». У прынцыпе цяжка што-небудзь пярэчыць супраць экранізацыі гэтага твору. Але-ж дзеяньне апавяданьня В. Караленкі адбываецца на Ўкраіне і, натуральна, што сцэнарый рыхтаваўся для Кіеўскай студыі. Аднак сцэнарый нечакана ўдалося «праштурхнуць» на беларускай студыі. Яго аўтар — А. Вітэнзон, які ніколі ня быў у Беларусі, тэрмінова дадаў у сцэнарый беларускі калярыт, чэрпаючы веды аб асаблівасьцях рэспублікі ў папулярным падручніку геаграфіі.

І вось фільм «Палеская легэнда» выйшаў на экраны. У ім можна было ўбачыць усё: сьляпцоў-бандурыстаў на ўкраінскім кірмашы, ліхіх гайдамакаў, старажытны літоўскі замак, польскія касьцюмы. У галоўных ролях выступілі акцёры І. Пераверзеў і А. Ларыёнава, але нічога ня было беларускага. Нажаль, такія выпадкі не адзінкавыя. Навет для напісаньня дыктарскіх тэкстаў студыя карыстаецца паслугамі запрошаных аўтараў, хоць у рэспубліцы ёсьць багата пісьменьнікаў і высокакваліфікаваных журналістаў...

**Аднэй з асноўных фігур у кіно зьяўляецца** рэжысар-пастаноўшчык. Ад яго прафэсіянальнага майстэрства ў значнай меры залежаць ідэйна-мастацкія якасьці фільму. Здавалася-б, на студыі асаблівая ўвага павінна быць аддадзена падбору рэжысарскіх кадраў, вылучэньню маладых рэжысараў за лік выпускнікоў Інстытуту кінаматаграфіі і з асяродзьдзя тэатральных калектываў рэспублікі.

Аднак дырэкцыя студыі і Міністэрства культуры БССР, замест выхаваньня нацыянальных кадраў, спадзяюцца на майстроў з цэнтру. А гэта часта мае няпрыемныя вынікі.

А. Куляшоў і А. Кучар напісалі сцэнарый аб рэвалюцыйным падпольлі ў Заходняй Беларусі. Ён быў прыняты мастацкім саветам студыі і рэкамандаваны да запуску ў вытворчасьць. Але чамусьці палічылі, што на беларускай студыі па такому сцэнарыю фільм ніхто ня здолее паставіць. Зь Ленінграду быў выкліканы рэжысар А. Файнцымэр, які звыш году пераапрацоўваў сцэнарый. Але калі прайшлі ўсе тэрміны і трэба было прыступіць да пастаноўкі, Файнцымэр адмовіўся ад гэтай працы.

**Цяпер па сцэнарыю А. Куляшова і А.** Кучара здымаецца карціна, якую ставіць рэжысар студыі В. Корш-Саблін. Як быццам усё наладзілася, калі ня лічыць таго, што з часу напісаньня сцэнарыя прайшло амаль два гады і фільм ужо даўно мог дэманстравацца на экранах.

У будучым годзе павінен быць у вытворчасьці сцэнарый М. Блісьцінава «Срогая жанчына». І зноў паўтараецца знаёмая гісторыя. На студыі ёсьць незанятыя рэжысары, аднак дырэкцыя для пастаноўкі выклікала зь віленскай студыі рэжысара Б. Шрэйбэра. Зноў пачаліся дапрацоўкі й перапрацоўкі сцэнарыя. Дзе ўжо тут думаць аб нацыянальнай форме твору!

**Яшчэ больш складанае становішча ў** беларускай кінэматаграфіі з акторскімі кадрамі.

Калі прыгадаць некаторыя беларускія фільмы апошніх год («Несьцерка», «Зялёныя агні», «Пасеялі дзяўчаты лён», «Палеская легэнда» і іншыя), дык у іх акторы беларускіх тэатраў выконвалі толькі невялікія эпізадычныя ролі.

**Так было раней. Ну, а цяпер як?** На студыі заканчваецца работа над карцінай «Нявестка». Усе галоўныя ролі выконваюць у ёй артыстыя маскоўскіх і ленінградзкіх тэатраў. Праўда, у карціне заняты і адзін беларускі актор С. Хацкевіч. Але ён выконвае толькі эпізадычную ролю.

Возьмем карціну «Чырвоныя лісьці», якая цяпер знаходзіцца ў вытворчасьці. У сьпіску **выканаўцаў галоўных роляў** можна сустрэць І. Арэпіну, К. Лучко, М. Жарава, Э. Павулса, Г. Мічурына, А. Кулакоўскага, Г. Чобура, але тут няма ніводнага беларускага актора. На студыі нярэдка можна чуць размовы, што беларускія акторы заўсёды занятыя, што яны тэатральныя, нефотагэнічныя і іншае. Але вось, калі глядзець карціны іншых нацыянальных студыяў Тбіліскай, Ерэванскай, Ташкентскай, Талінскай, Віленскай, дык у іх асноўныя ролі выконваюць акторы з рэспубліканскіх нацыянальных тэатраў. Там аказваецца, акторы і не занятыя, яны і кінэматаграфічныя і фотагэнічныя.

У нашых суседзяў ёсьць шэсьць тэатраў (Латыская і Эстонская рэспублікі), а ў Беларусі працуе адзінаццаць тэатраў, ды яшчэ тэатральна-мастацкі інстытут. Цяжка паверыць, каб у гэтых шматлікіх калектывах нельга было выбраць адну-дзьве групы актораў для фільмаў, якія беларуская студыя выпускае ня так ужо й часта. **Для гэтага** трэба толькі адно — жаданьне, якое не заўсёды ёсьць. Лягчэй і прасьцей (але зусім не таней) выклікаць зь іншых гарадоў заслужаных, апрабаваных актораў, чым працаваць з моладзьдзю, займацца першаадрыцьцём здольных актораў сваёй рэспублікі. Ня дзіўна, што пры такой практыцы падбору актораў, якая існуе на беларускай студыі, **фільмы даўно перасталі гучэць ужо на беларускай мове** (падчыркнута намі — Рэд.). Праўда, яшчэ некалькі год назад гатовыя фільмы з дапамогаю артыстых менскіх дубляваліся на беларускую мову. Але-ж кажнаму зразумела, што копія амаль заўсёды горш арыгіналу. Карціна пры дубляжы звычайна многа траціць у сваёй самабытнасьці, у сваёй мастацкай якасьці. Але вось апошнія фільмы «Міколка-паравоз» і «Нашы суседзі» зусім ня дубляваліся. Навошта лішнія клопаты!...

Адзін з важнейшых кампанэнтаў нацыянальнай формы ў кінатэатры — пэйзаж, абстаноўка, у якой адбываецца дзеяньне. Пры гэтым пэйзаж павінен быць ня фонам, а актыўным асяродзьдзем, якое адыгрывае істотную ролю ў разьвіцьці дзеяньня, у паводзінах гэрояў. Прыкладам удалага скарыстаньня пэйзажу ў фільме могуць служыць такія творы беларускай кінаматаграфіі, як «Лясная быль», «Сосны шумяць», «**У вагні народжаныя», «Адзінаццатае** ліпеня», «Канстанцін Заслонаў», «Дзеці партызана». Але ці можна па пэйзажах. абставінах дзяньня сказаць, дзе, у якой рэспубліцы адбываецца дзеяньне «Зялёныя агні», «Палеская легэнда» або фільму «Нашы суседзі»? Бадай, адразу і не адкажаш.

Наша рэспубліка зь яе гарадамі, вёскамі, лясамі, палямі, рэкамі — цудоўны «натурны павільён», дзе могуць быць зазьняты дзесяткі разнастайных па жанрах карцін. Аднак гэтыя магчымасьці пакуль што скарыстоўваюцца дрэнна. Вось некалькі характэрных прыкладаў. Праз усё апавяданьне Караленкі «Лес шуміць» праходзіць вобраз лесу. Натуральна, што гэты элемэнт павінен быць асабліва выразна раскрыты ў фільме «Палеская легэнда». Аднак пастаноўшчыкі ўхітрыліся ў Беларусі — краі лясоў — ня зьняць лесу. І ўжо перад заканчэньнем работы над фільмам давялося ў павільёне неяк ствараць падабенства лесу з дапамогай прывезеных сасновых і яловых галінак. Запраўды, здымачная група ў сябе на Беларусі з-за дрэваў лесу ня ўбачыла!

Дзеяньне кінакамэдыі «Нашы суседзі» па задуме яе аўтара адбываецца ў Менску. Кажны зь мянчан у сваім горадзе можа паказаць прыгожыя вуліцы і плошчы зь іх цудоўнымі архітэктурнымі ансамблямі дамоў, паркі, сквэры, бульвары, жывапісныя куткі прыгарадоў.

Але ў фільме «Нашы суседзі» на экране мільгае толькі адлюстраваньне некалькіх дамоў і вуліц, зьнятых «наогул». Пастаноўшчыкі здолелі «не заўважыць» вакол іх цікавы выяўленчы матарыял, чым у значнай меры зьбяднілі сваю карціну.

Недастатковая ўвага асобных творчых работнікаў студыі да беларускага пэйзажу, мовы, нацыянальнага характару зьбядняе нашае кіно.

Нацыянальная асаблівасьць, мастацкая форма, у якой адлюстроўваецца зьмест кінатвору, і зьяўляецца іменна тым каштоўным укладам, які кажны з народаў уносіць у вагульную скарбніцу сацыялістычнай культуры нашай краіны...

☆

Вышэй перадрукаваны артыкул з савецкай газэты ніякіх камэнтараў не патрабуе. Ён, як і многія іншыя, што мы цяпер часта передрукоўваем, дакумэнтальна паказвае, як выглядаюць у запраўднасьці «бацькаўскія клопаты партыі і ўраду» аб свабодным і плённым **разьвіцьці беларускай культуры, як выглядае** «буйны рост» гэтай культуры ў умовах савецкага ладу, як, напасьледак, выглядае раскрычаная, як запраўднае дабрадзейства, г. зв. «нацыянальная форма». У запраўднасьці, усе крыклівыя фразы аб буйным разьвіцьці беларускай нацыянальнай культуры, хацябы толькі і «паводля формы» — гэта ашуканства, бязьлітасны, сьвядомы і цынічны зьдзек над беларускай культурай, ня толькі нацыянальнай, але культурай наагул.

# Новыя экспэрымэнты ў сельскай гаспадарцы СССР

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

лёны для перавозу калгасных грузаў.

Хрушчоў запэўнівае, што гутаркі з партыйнымі й гаспадарскімі працаўнікамі, старшынямі калгасаў і дырэктарамі МТС сьветчаць, што «ў нас няма перашкодаў, якія-б перашкаджалі ажыцьцяўленьню дадзенага мерапрыемства. Усе цьвердзяць, што гэта карысна й трэба зрабіць. Але пытаньне гэтае, бясспрэчна, паважнае».

З усіх гэтых разважаньняў Хрушчова відаць вялікая асьцярожнасьць, неназважанасьць і навет боязь хутка разьвязаць пытаньне рэарганізацыі МТС. Зь ягоных слоў відаць, што толькі частку сельска-гаспадарскіх машынаў будуць прадаваць калгасам, прычым пераважна глебаапрацоўчых. Не ўспамінаюцца машыны для збору ўраджаю. Магчыма, што камуністычнае кіраўніцтва не наважыцца прадаваць усе сяродкі вытворчасьці калгасам і важнейшыя машыны для збору ўраджаю будуць згрупаваныя ў пракатных пунктах пры рамонтных станцыях. Гэтая асьцярожнасьць выклікаецца боязяй, каб ня зьменшыць нарыхтовак сельска-гаспадарскіх прадуктаў, бо да гэтага часу натураплата за працы МТС складала збожжам больш за 50 працэнтаў усіх нарыхтовак. І, хіба-што, з гэтай мэтай й прапануецца трымаць у руках дзяржавы і аўтатранспарт. Урэшце, доўгая працэдура разьвязаньня пытаньня аб рэарганізацыі МТС і папярэджаньні аб вялікай важнасьці гэтага мерапрыемства, сьветчаць, што камуністычнае кіраўніцтва ня мае цьвёрдай упэўненасьці, што калгасы будуць паслушна выконваць плян нарыхтовак бяз МТС.

Прыпамінаецца тая роля, якую прыдаваў Хрушчоў МТС у ягоным дакладзе на пленуме ЦК КПСС у 1955 г. «МТС у сельскай гаспадарцы, — казаў ён, — павінны быць нашай цьвярдыняй... цяпер калі МТС дэцыдуюць аб долі вытворчасьці асноўных сельскагаспадарскіх прадуктаў, яны ў стане ўзяць на сябе адказнасьць і за правядзеньне нарыхтовак у калгасах».

Камуністычнае кіраўніцтва, відаць, не наважыцца разбурыць сваю «цьвярдыню» ў сельскай гаспадарцы, аднак прымушана пад ціскам нутраных сілаў у калгасах перабудаваць сваю цьвярдыню, прыстасаваўшы яе да сучасных палітычных абставінаў.

**В. К.**

* * *

Мая гаспадыня,
Таццяна Р(аманаў)на!
У вадным музэі я бачыў
Над японскаю вазаю надпіс:
«Просяць рукамі ня датыкацца».
Тое-ж скажу і аб каханьні,
Бо гэта — задушэўная справа,
А чалавецкай душы таксама
Няхораша мацаць рукамі.
Далікатныя людзі самі ведаюць гэта,
А недалікатным аб гэтым напамінаюць.

* * *

Ўсё адна цяпер мне думка сэрца сушыць,
Як пабачыцца з табой, к табе прыйсьці,
А палын-трава няхай сабе заглушыць
Пазабытыя даўнейшыя пуці.

* * *

Я хацеў-бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую, сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Гэркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
Ды імчыцца за сонцам зямля»...
Так казаў-бы я,
І тонкае джала жальбы
Укалола-б душу мне.
Суцішай гэты боль, мая мілая думка,
Што нам з Вамі адна дарога,
Ня толькі дарога Дваранскай і Стралецкай
Але і да тых да ясных зор.

* * *

Больш за ўсё на сьвеце жадаю я,
Каб у мяне быў свой дзіцёнак —
Маленькая дачушка — немаўляшка,

Аня Максімаўна,
Такая прыгожанькая,
Цёпленькая, мокранькая,
З чорнымі валосікамі і броўкамі,
Зь цёмна-карымі вочкамі,
А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.
Зусім такая, як Вы,
Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай.

* * *

Буду сьніць і днямі і начамі.
І прыйду. Што ўздумаеш, рабі.
Хочаш — душу растапчы нагамі,
Хочаш — мучай, хочаш — загубі.

* * *

Муар
Двума колерамі
Пераліваецца.
І бачна ўсім,
Дзе пачынаецца і дзе канчаецца каторы
А ўсё-ж такі мяжу між імі
Чыртою цьвёрдай
Не правесьці.
У сэрцы — боль:
Ніколі
З душою Вашай так ня зьліецца
Мая душа
Канец.

* * *

Но знаю: не пройдет бесследно
Все, что так страстно я любил —
Весь трепет этой жизни бедной,
Весь этот непонятный пыл.

**А. Блок**

Ці ведаеце Вы, цемнавокая пані,
Што бываюць ня толькі цёмныя вочы,
Але і цёмныя зоры,
Што калі-ні-калі схапляюцца ясным сьветлам.

У гэты міг
Яны, быць можа, ня лепш прыгожы
За вашых высечаных зь цёмнага каменю вачэй,
Ў каторых раптоўна засьвячаецца аганёк.

Не паляціць на яго мая душа,
Не апаліць свае кволыя скрыдэлцы.
Шмат ёсьць на сьвеце розных агнёў,
І кажным зь іх заваражаны я — Ваш пясьняр.

* * *

Цемнавокая пані, канец!
Ёсьць, накінтал Вашых цёмных вачэй,
Зоры цёмныя, што неўнарок
Загараюцца ў змроку начэй.

Цемнавокая пані, яны
Так прыгожы у дзіўны той міг,
І ня горш, мо, за Вашых вачэй,
Калі вогнік зіяе у іх.

Цемнавокая пані, сябе
Я на гэтым агні не спалю:
Шмат на сьвеце ёсьць розных агнёў,
Ўсе яны вабяць душу маю.

(Далей будзе)

# Некалькі пытаньняў і заўвагаў Янку Брылю

У першым нумары савецкага беларускага часапісу «Маладосьць» за 1958 год, беларускі пісьменьнік Янка Брыль зьмясьціў свае ўражаньні й заўвагі з падарожжа ў Польшчу пад загалоўкам «Слова па шчырасьці».

Трэба сказаць, што Янка Брыль мае войстрае пяро. Не таму, што ён у свой час атрымаў сталінскую прэмію за сваю аповесьць «У Забалоцьці днее». У гэтым выпадку вырашальным было не мастацтва, але палітычны зьмест кніжкі. З тым, што Янка Брыль можа пісаць, згодзіцца, хіба, кажны, хто нешта ягонае прачытаў.

Але я тут турбую Янку Брыля не таму, каб яму рабіць толькі камплімэнты. На гэты крок піхнуў мяне той нясмак, які ў мяне застаўся пасьля прачытаньня ягоных радкоў у «Маладосьці».

Янка Брыль, як і іншыя беларускія паэты й пісьменьнікі з былой Заходняй Беларусі, найлепш у СССР азнаёмленыя з польскімі справамі. Таму, звычайна, да розных афіцыйных і паўафіцыйных савецкіх дэлегацыяў, якія наведваюць «народную» Польшчу, прыдзяляецца нехта із іх, як, свайго роду, дараднік і культурны пасярэднік паміж СССР і Польшчай. Янку Брылю гэтая «годнасьць» прыпала ўжо ня першы раз.

У ўспомненых нататках «Слова па шчырасьці», ён апісвае ўражаньні з свайго апошняга падарожжа ў Польшчу ў складзе савецкай дэлегацыі на сьвяткаваньне саракагодзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, ладжанага ў Варшаве. Гэтым разам польская «сацыялістычная» рэчаіснасьць дала Янку Брылю значна менш тэмаў і натхненьня, як для ягоных нататкаў аб папярэднім падарожжы ў Польшчу. Падкрэсьліўшы, што ён «поўнымі грудзьмі» прасьпяваў «Інтэрнацыянал» у варшаўскім Палацы культуры на сьвяткаваньні «саракагодзьдзя», Янка Брыль, ўзяўшы тон і позу пільнага вартаўніка й абаронцы «чысьціні» «сацыялізму» ўва ўсіх дачыненьнях, пачаў, не без пачуцьця гаспадара сытуацыі, крытыкаваць усё, што Палякі ўважаюць сваім вялікім дасягненьнем, атрыманым у выніку кастрычніцкіх падзеяў 1956 году.

Яму не падабаецца, што польскія літаратары ня ўсе пішуць гэтак званым «соцрэалізмам» і ў сваіх часапісах свабодна парушаюць і дыскутуюць самыя розныя тэмы; што моладзь апранаецца так, як яна хоча, і танцуе тое, што ёй падабаецца, а найбольш «рок-н-рол»; што ў Польшчы вельмі пашыранае мадэрнае мастацтва й кніжкі замежных аўтараў з рознай тэматыкай; што ў тэатрах і кабарэтах пераважае заходні рэпартуар, а ў рэстаранах «кока-коля». Ён абураецца на «эўрапэізм» і «стылягаў» у вопратцы й мастацтве. Ён упікае Палякаў, што яны із-за «эўрапэізму» забываюцца, дзе ў пяршыню перамагла «пралетарская рэвалюцыя» і што над іхнімі галовамі кружаць ня проста спадарожнікі, але **савецкія спадарожнікі;** што яны не дабачваюць «вялікай рускай літаратуры». Адным словам Янка Брыль заўважыў, пасвойму, усе плюсы й мінусы пасьлякастрычніцкай польскай рэчаіснасьці.

Нельга яму закінуць, што ён ня ўмее спасьцерагаць. Нельга яму, таксама, адмаўляць права крытыкаваць тое, што яму не падабаецца, і хваліць тое, што падабаецца. Наадварот, хто з гэтага права карыстае — даказвае сваю цывільную адвагу ды заслугоўвае на пахвалу. Але... Але перад тым, як наводзіць парадкі на чужым панадворку, трэба іх навесьці на сваім уласным. А аб гэтым Янка Брыль, відаць, забыўся ... Ён «як кухар з бульбай» распраўляецца з «эўрапэізмам» Палякаў, але сядзіць, «як мыш пад мятлой», калі яго й цэлы наш народ душаць горшыя «ізмы», а галоўны зь іх — гэта «русыцызм». Калі яму запраўды, як ён піша, «да праўды ня прывыкаць», ён мусіў-бы бачыць, што Палякам «эўрапэізму» ніхто сілай не накідае, а русыфікацыя Беларусі праводзіцца ўсёй сілай дыктатарскай маскоўскай улады. Паміма «эўрапэізму» польскае жыхарства Польшчы будзе напэўна карыстацца не ангельскай або францускай, але польскай мовай.

А што-ж мы маем сёньня ў Беларусі? Якая мова ў выніку «сацыялістычнага»ператварэньня паўсеўладна пануе сяньня ў БССР, пачынаючы ад мінстэрства й канчаючы на сельсавеце? Можа беларуская? Ці тут Янка Брыль ня меў-бы чаго сказаць, калі яму запраўды залежыць на захаваньні нацыянальнай культуры навет Палякаў. Чаму Янка Брыль ня прысьвяціў падобнага артыкулу ў вабарону правоў сваёй роднай мовы й культуры на сваёй бацькаўшчыне ад рэальнай, дзеючай загрозы поўнай русыфікацыі? Ці Янку Брылю ня ведама, што сяньня на Беларусі карыстацца роднай мовай, гэта значыць наражацца **на небясьпеку?**

Янка Брыль піша, што яго засмучала і абурала «бяздушнае, пазбаўленае пачуцьця сацыяльнай і нацыянальнай годнасьці нізкапаклонства» Палякаў «перад капіталістычным Захадам». Як-жа тады можна сфармуляваць паводзіны Янкі Брыля ў дачыненьні да «социалистическаго старшего русского брата»?

Калі Янка Брыль мае хоць крыху пачуцьця нацыянальнай годнасьці, хай ён ня думае, што ягонае сумленьне будзе спакойным ад аднае ўскоснае заўвагі, што нейкі «Лопух» «падкультурыўся» і стаўся «Лопухов».

**Ю. Дубовік**

# З жыцьця Беларусаў пад Польшчай

**(Паводля «Нівы»)**

У канцы мінулага году ў Міністэрстве асьветы адбылася канфэрэнцыя прысьвечаная разгляду паложаньня школьніцтва нацыянальных мяншыняў у Польшчы.

У розгорнутых пасьля дакладу дыскусіях падчыркваўся, між іншым незадавальняючы стан беларускага школьніцтва. Асноўныя прычыны такога стану — гэта перадусім недахоп кваліфікаваных настаўніцкіх кадраў і адпаведных падручнікаў.

Сярод прапанаваў, што датычылі беспасярэдня беларускіх справаў, былі гэтакія: зарганізаваньне сыстэматычнага ўдасканальваньня пэдагагічных кадраў, узмацненьні рэкрутацыі на Катэдру беларускай філялёгіі пры Варшаўскім унівэрсытэце і на настаўніцкую студыю ў Беларусі.

☆

28-га сьнежня м. г. Завочная настаўніцкая студыя ў Беластоку пачала свой новы навучальны год. У гэтым годзе 44 настаўнікаў студыюе тут беларускую **філялёгію (з гэтага 23** на першым годзе).

☆

14-га сьнежня м. г. у Саколцы адбылася павятовая канфэрэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. На канфэрэнцыі сьцьверджана, што беларуская асьвета на Сакольшчыне натыкаецца на розныя цяжкасьці й да гэтага часу слаба разьвіта. Тут абмяркоўвалася, між іншым, і справа зарганізаваньня курсаў беларускай мовы для дарослых.

☆

Як ведама, Беларусы ў межах сучаснае Польшчы жывуць ня толькі на беларускіх этнаграфічных землях Беласточчыны. Асабліва шмат нашых суродзічаў знаходзіцца ў заходніх ваяводзтвах — на землях далучаных да Польшчы пасьля апошняе вайны. Да гэтага **часу ніякага беларускага арганізаванага** жыцьця тут амаль няма. Гэтаму факту прысьвяціла сваю перадавіцу «Ніва» з 12-га студзеня г. г. «Ніва» піша:

«...Нашай задачай будзе запоўніць культурную пустку ў якой яны (Беларусы на гэтых землях — Рэд. «Б-ны») знаходзяцца. Людзі адарваныя ад свайго ўласнага асяродзьдзя зьяўляюцца чужымі, часта навет саромяцца сваёй нацыянальнасьці. Навет тыя, каторыя ў беларускім асяродзьдзі сьмела заяўляюць, што яны Беларусы, тут у новым грамадзкім згрупаваньні нясьмела разглядаюцца каля кіёска, калі хочуць купіць нумар «Нівы»...

«Сьветчыць гэта аб тым, што прагнасьць беларускага друкаванага слова ёсьць даволі вялікая...

«Справа дастатковага забясьпечаньня ў беларускае друкаванае слова — гэта вельмі важная справа. Абмяжоўвацца да культурна-грамадзкай дзейнасьці да межаў беластоцкага воявод́зтва — гэта памылковая думка. Жыцьцё паказвае, як разьвіваецца культурная праца Беларусаў у некаторых асяродках даволі далёка аддаленых ад Беласточчыны (Варшава, Шчэцін). Можа яна разьвівацца й яшчэ ў іншых асяродзьдзях, калі Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства паможа яму нарадзіцца.

«Кажнаму вядома, як вялікае значаньне адыгрываюць у падтрымцы нацыянальнай сьвядомасьці мастацкія калектывы. ГП БГ—КТ, маючы свае калектывы, павінна заплянаваць у сваёй працы наведваньне імі іншых ваяводзтваў, а перш за ўсё суседніх...

«І таму, калі набліжаецца тэрмін другога Зьезду БГ—КТ, ці ня добра было-б папрасіць на Зьезд ня толькі прадстаўнікоў павятовых аддзелаў, але й прадстаўнікоў беларускага насельніцтва іншых ваяводзтваў, каб запазнацца зь іх жыцьцём, навязаць зь імі сувязь і мабілізаваць іх да працы ў Таварыстве.»

☆

20 студзеня г. г. у Беластоку адбылося арганізацыйнае паседжаньне Камітэту пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму.

Было пастаноўлена пачаць зьбіраць матар'яльныя сяродкі на пабудову Дому народнай творчасьці імя Кастуся Каліноўскага; гэта й мае быць помнікам Каліноўскаму.

Таксама імем Кастуся Каліноўскага было пастноўлена назваць і новавыбудаваную школу ў Мастаўлянах, дзе радзіўся беларускі нацыянальны герой. Будуць таксама рабіцца захады, каб імем Кастуся Каліноўскага назваць і адну вуліцу ў Беластоку.

☆

За двухгадовы пэрыяд Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства зарганізавала 30 мастацкіх калектываў, якія далі звыш трохсот выступленьняў.

# Зь беларускага жыцьця

### IX ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

У днях 25 і 26-га студзеня сёлета адбыўся ў Таронта IX-ты Агульны Зьезд дэлегатаў і сяброў Згуртаваньня Беларусаў Канады. Працы Зьезду праводзіліся ў вялікай залі на рагу Асінгтон-Дандэс. Кіраваў Зьездам сп. мг-р А. Грыцук пры дапамозе сп. Г. Барановіча — сакратара й сп. Жураўскага — сябры Прэзыдыюму.

Апрача шматлікіх мясцовых сяброў былі дэлегаты ад аддзелаў: сп. Буцька — старшыня аддзелу Садбуры, сп. Жураўскі — старшыня аддзелу Лёндан, прадстаўнікі аддзелу Ашавы, а таксама колькі сяброў з правінцыі.

Выслуханае было прывітаньне ад Уладыкі Васіля й прывітаньні ад дэлегатаў аддзелаў.

Гадавы абарот касы ЗБК перавысіў у мінулым годзе 13,000 дал.; з гэтага было 6.713 дал. 86 ц. прыходу і 6.420 дал. 14 ц. расходу. Аснаўная сума грошаў пайшла на пакрыцьцё даўгоў за Беларускі Дом.

У галіне культурна асьветнай працы было зроблена 8 дакладаў, пераважна на грамадзкія й гістарычныя тэмы. Сакратарыят выдаў два абшырныя інфармацыйныя бюлетэні аб працы арганізацыі. У летнім сэзоне было наладжана 8 маёвак (пікнікаў), якія значна ўзбагацілі арганізацыйную касу, зроблена 7 вечарынаў, што таксама былі нядрэннымі крыніцамі даходу ЗБК. Дзякуючы стараньням рэфэрэнта вонкавых сувязяў ЗБК сп. Акулы канадыйская дзяржаўная радыёстанцыя СБС зрабіла дзьве поўгадзінныя перадачы беларускіх песьняў. Праводзіліся сувязі й супрацоўніцтва з іншанацыянальнымі й канадыйскімі арганізацыямі.

У мінулым годзе добра вызначыліся ў працы аддзелы ЗБК. Судбарскі аддзел рэгулярна праводзіў урачыстыя сьвяткаваньні нацыянальных гадавінаў, браў удзел у імпрэзах, ладжаных у Таронта. Каса ягоная мела звыш 800 дал. абароту, з чаго заашчаджана чацьвертая частка. У працы ў Садбуры вызначыліся ўжо добра ведамыя заслужаныя ў грамадзкай працы Беларусы, сп. сп. Д. Курыловіч, Буцька, Каранеўскі і Л. Наркевіч. Асабліва варта адцеміць ахвярнасьць сп. Каранеўскага, які мінулымі Калядмі надзяліў дзетак беларускіх сем'яў у Садбуры каляднымі падаркамі, купленымі за собскія грошы.

Аддзел Лёндан меў звыш 400 дал. абароту, із чаго сяньня заашчаджаных мае каля паловы. Тут у працы вызначыліся: сп. сп. Іваноўскі, Жураўскі й Шуст. Як і садбурскі, лёнданскі аддзел ладзіў сьвяткаваньні нацыянальных сьвятаў, браў удзел у розных імпрэзах, ладжаных цэнтраляю ЗБК. Шкада, што замала ўдзелу, здаецца амаль ніякага, не бярэ ў працы аддзелу усім нам ведамы й шанаваны, прыехаўшы з Бэльгіі лекар. Але-ж тут, здаецца, няма рады. Чым далей у лес, тым больш дроў, як кажуць...

Слаба ў мінулым годзе працаваў ашаўскі аддзел. Ён, праўда, зарганізавана браў удзел амаль ува ўсіх імпрэзах, ладжаных Галоўнаю Управаю, але затое мала рабіў самастойна. Там нядаўна перавыбрана ўправа аддзелу і выглядае, што праца будзе зарганізавана лепш.

Кіруючым і кантрольным ворганам ЗБК удзелена абсалюторыюм із падзякаю, з адзначэньнем асабліва ахвярнае й прыкладнае працы сакратара Галоўнае Управы ЗБК сп. А. Маркевіча.

Прыняты бюджет і плян працы арганізацыі на наступны год. Бюджэт амаль пакрываецца зь мінулагоднім. Плян працы прадугледжвае адзін даклад на месяц, зарганізаваньне й вядзеньне школкі для беларускіх дзетак, набыцьцё кніжак для беларускай бібліятэкі й для гарадзкой бібліятэкі ў Таронта, наладжаньне ў гэтым годзе сустрэчы зь Беларусамі ЗША і, самае найважнейшае — куплю будынку. Будынак мае быць куплены на супалку із прыходам Сьв. Кірылы Тураўскага. Дзеля гэтай мэты быў прачытаны й прыняты сябрамі Зьезду праект умовы з Царквой. Пастаноўлена паклікаць ад ЗБК трох мужоў даверу (трастоў). Другіх трох мае паклікаць Царква, а аднаго — супольна.

Сёлета 30-га кастрычніка прыпадаюць дзясятыя ўгодкі заснаваньня Згуртаваньня Беларусаў Канады. Для правядзеньня належнага адзначаньня й сьвяткаваньня гэтай гадавіны Зьезд паклікаў камісію ў складзе сп. сп. В. Жука, М. Ганька й К. Акулы. Таксама абгаваравалася справа сьвяткаваньня саракавых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Кіраўнічыя й кантрольныяворганы ЗБК пасьля выбараў і падзелу функцыяў выглядаюць гэтак:

**Галоўная Управа:** сп. А. Маркевіч — старшыня, сп. інж. Я. Бруцкі — заступнік старшыні й арганізацыйны рэфэрэнт, сп. К. Акула — заступнік старшыні і рэфэрэнт вонкавых сувязяў, сп. мг-р М. Арцюх — рэфэрэнт культуры й асьветы, сп. Я. Чорны — фінансавы рэфэрэнт, сп. М. Рачыцкі — сакратар, сп. Лабэцкі — сябра й другі рэф. вонкавых сувязяў.

**Наглядная Рада:** сп. д-р В. Жук — старшыня, сп-ня В. Грыцук і сп. Г. Барановіч — сябры.

**Сяброўскі Суд:** сп. А. Протас — старшыня, сп. мг-р А. Грыцук і сп. Я. Баран — сябры.

Гаспадаром Беларускага Дому згадзіўся быць сп. М. Рачыцкі.

Трэба зь вялікім задаваленьнем зацеміць, што Зьезд праводзіўся на высокім узроўні, сябры падыходзілі да ўсіх пытаньняў вельмі паважна, бязь лішняй гаворкі й траты часу. Таксама трэба прывітаць новага сябру Галоўнае Управы сп. Лабэцкага, які ўжо добра ўцягнуўся ў грамадзкую працу. Вітаем ня менш горача й новую сяброўку ЗБК, а цяпер ужо — Нагляднае Рады, сп-ню Вольгу Грыцук, што нядаўна прыехала з Польшчы. Яна не зьяўляецца рэкрутам у беларускай грамадзкай працы, бо брала ў ёй удзел у Аўстрыі пасьля апошняй вайны пры выдаваньні «Пагоні» і «Зь Беларускага жыцьця», а таксама ў лягерным камітэце.

Калі арганізацыя ставіць перад сабою вялікія заданьні (як купля супольна з Царквой грамадзка-рэлігійнага цэнтру), калі сябры вельмі паважна адносяцца да ўсіх спраў, як гэта было відаць на IX-м Зьезьдзе, калі растуць і мацнеюць аддзелы арганізацыі, калі прыбываюць на кіраўнічыя становішчы новыя сябры — арганізацыя мае ўсе шансы здабыць яшчэ большыя посьпехі, чымся дасюль. Гэтага й жадаем усім кіраўнічым ворганам і ўсім сябром Згуртаваньня Беларусаў Канады.

**ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ,** арганізаваная Царквой і ЗБК, адбылася ў Таронта 12-га студзеня з удзелам Дзеда Мароза і бацькоў.

**М. К-р**

## *Па лягерох і селішчах*

### РЭГЭНСБУРГ

Пасьля пару гадзін язды цягнікам — старое цэзарскае места Рэгэнсбург. Само места прыгожа распалажана над Дунаем.

На ўскраіне места, недалёка ад Дунаю, знаходзіцца селішча чужынцаў. Гэта вялікія стандартныя мураваныя будынкі, дзе жывуць зрэшты ня толькі чужынцы, але й таксама Немцы. Між гэтымі блёкамі знаходзіцца таксама некалькі заселеных баракаў.

У гэтым селішчы жывуць пераважна інваліды й хворыя, хаця шмат таксама й людзей здаровых, якія з тых ці іншых прычынаў не змаглі яшчэ выэміграваць. Усіх іх утрымоўвае нямецкая Сацыяльная Апека («Вольфартсамт»). Што азначае гэтая дапамога? Гэта толькі мінімум, прызначаны на існаваньне чалавека. Праўда, некаторыя займаюцца хатнімі й іншымі аказыйнымі працамі й гэтым сабе падзарабляюць да атрымоўванага мінімуму.

Далей у Рэгэнсбургу ў вадным із шпіталяў знаходзіцца аддзел для нявылечальна хворых, дзе ёсьць таксама шмат чужынцаў. Гэтыя людзі, як казаў лекар, адтуль ужо ніколі ня выйдуць. Нічога дзіўнага тады, што й настрой у іх вельмі прыгнечаны, хаця ёсьць сярод іх і такія, што вераць яшчэ ў нейкі цуд.

У Рэгэнсбургу жыве каля 40 Беларусаў, якія дасюль не змаглі выэміграваць у іншыя краіны.

Гэтых пару словаў я прысьвячаю тым, якія выйшаўшы калісьці самі з падобных селішчаў і лягероў, уладзілі сваё жыцьцё ў новых краінах пасяленьня.

**Падарожны**

**ВЫКАНАЙ ГРАМАДЗКІ АБАВЯЗАК — ПАШЛІ СВОЙ ДАР САКАВІКА Ў КАСУ ФОНДУ БНР!**







**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**